**ПАВАЖАНЫМ ЧЫТАЧАМ І ПАДПІШЧЫКАМ „НАШАЕ ВОЛІ“ РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ ЗАСЫЛАЕ ШЧЫРЫЯ СЬВЯТАЧНЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ.**

# 70-я ўгодкі Ромайна Роллянда.

Імя вялікага францускага пісьменьніка Ромайна Роллянда знанае ўсяму цывілізаванаму чалавецтву. Дажыўшы да паважнага веку — 70 гадоў, Ромайн Роллянд, гэты гарачы дэмакрат, пазастаўся тым самым шукачом праўды, якім быў увесь свой век, пачынаючы ад самых маладых гадоў.

Ромайн Роллянд не зьяўляецца звычайным пісьменнікам, звычайным мастаком слова. Ягоныя творы, якія адзначаюцца харaствам, сочнасьцю і шляхотнасьцю ролляндаўскага языка, ўносяць у сусьветную культуру скарбы агульначалавецкага значэньня. Культура якую нясуць ягоныя кніжкі, адзначаецца глыбокім зразуменьнем чалавека, ягоных спраў, ягоных жыцьцёвых інтарэсаў. Роллянд дзеля гэтага перастаў быць пісьменьнікам выключна францускім – ён стаўся пісьменьнікам сусьветным.

Але ня толькі пісьменьнікам у вузкім значэньні гэтага слова зьяўляцца Роллянд. Ён ніколі не пазаставаўся нядзейным у моманты паважных здарэньняў у жыцьці народаў. У годы братабойчай вайны народаў у 1914—1918 г.г. — Роллянд пазастаецца ўвесь час заўзятым праціўнікам бойні, прыхільнікам брацтва народаў, і за гэтае, у часы разьвіцьця нацыянальных шовінізмаў. быў, як гаворыць сам, у працягу чатырох гадоў найбольш ненавісным французам ува Францыі.

Пасьля вайны Роллянд працуе над справаю збліжэньня народаў, разьвівае шырока публіцыстычную працу, выступае супроць цкаваньня народаў, супроць рыхтаваньня новае вайны.

У апошнія часы, калі францускі народ у цяжкай барацьбе выкоўвае брацкую еднасьць, Роллянд разам з народам, аддае яму свае сілы, свой талент, жыве ягонымі радасьцямі, ягоным горам, ягонымі надзеямі. Гэтым тлумачыцца тая папулярнасьць, якой цешыцца Роллянд ня толькі ўва Францы але і сярод працоўных усяго сьвету.

Роллянд, як актыўны грамадзкі дзеяч, добра разумее, што аднэй літэрацкай дзейнасьці зараз мала. Трэба бараніць культуру ад нішчэньня, якое нясе сусьветны фашызм, і дзеля гэтага Роллянд становіцца ў шэрагі актыўных барацьбітоў, у шэрагі супольнага народнага фронту.

Гэтае грамадзкае становішча Роллянда павінна быць прыкладам для пісьменьнікаў, якія запраўды хочуць бараніць культуру, а тым балей і для нашых беларускіх пісьменьнікаў.

# ЖУРНАЛЬНЫ АГЛЯД.

Беларуская журналістыка расьце.

Пачатак году прынёс нам ня толькі далейшы працяг жыцьця істнаваўшых ужо часапісаў, але й нараджэньне новых. Такім чынам — „народзіны яўна перавышаюць сьмяротнасьць“, што сьведчыць аб выразным дадатнім „жыцьцёвым балянсе“ сярод нашага грамадзянства.

Але дадатні балянс не абмежоўваецца галінай лічбова-статыстычнай.

Усе тры разгляданыя ніжэй пэрыодыкі выдаюцца, як ведама, за складковыя грошы. З гэтага боку трэба сьцьвердзіць поступ безумоўны.

„Ідэйны чалавек, гэта той, хто за ідэю ідзе на ахвяры“, — кажа адзін з пэрсанажаў Ібсэна. Наша грамадзянства яўна робіцца ідэйным... Бо-ж пры нашай беднасьці часта лягчэй, як кажуць, галавой далажыць, як ахвяраваць грошы. І вось цяпер пашыраецца неяк зразуменьне, што не адныя ахвяры жыцьцём патрэбны для перамогі, але й сталая, абмысьленая цьвёрдая акцыя, сьведамая сваіх мэтаў і сродкаў... А гэта якраз і дае культура.

Журналістыка ставіць сабе задачай пропаганду культуры.

Пасьля гэтага кароткага уступу зьвернемся да нашага агляду.

Пачнем з найстарэйшага і, праўду сказаць самага сымпатычнага з усіх трох.

---

**„ЛЕТАПІС“** Т-ва Бел. Школы. Культурна-грамадзкі і Літэратурны месячнік № 1-3. Ст.-Люты, Сакавік, 1936 г. Год II.

„Летапіс“, як орган ТБШ, мае свой асаблівы характар. Мэта яго—ідэйна-адміністратыўнае кіраўніцтва усёй працай гэтай культурна - асьветнай арганізацыі. Увесь матэр'ял, згуртаваны у часапісу, падпарадкуецца гэтай агульнай і галоўнай задачы. Дзеля таго нават тыя, быццам вольна-бэлетрыстычныя абразкі, якія зьмешчаны ў ім, маюць ясную, нават зусім не укрываную, як кажуць, „тэндэнцыю“, якая выяўляецца, тут высокім, гарачым, шчырым **ідэйным уздымам**, тым „асьветным энтузыязмам“, які, як запраўдная жывая душа часапісу, сьвеціць з кожнага радка яго старонак... Агульны дух часапісу, дзеля таго, жывы, сьвежы, бадзёры, ня гледзячы на тое, што і хроніка і карэспандэнцыі, і бэлетрыстычна апрацаваныя факты з сучаснага вясковага жыцьця і працы арганізацыі на мясцох, — усе жудасным хорам кажуць аб тым, як жыве і кратаецца „асьветная думка і воля“ беларускага народу...

Але-ж што значыць „хроніка“*), „сучаснасьць“—перад непераможнай сілай **вечнай ідэі**, якая „шляхам асьветы“ як кажа адзін з артыкулаў часапісу—вядзе народы да перамогі..

*) „Хронікос“ па грэцку значыць „часовы“.

Так як быццам сьведама і уложаны матэр'ял часапісу.

Вось сумны абраз Сьвіслацкага гуртка, зачыненага „за бездзейнасьць“... Вось—другі „аж да сьлёз“ сумны абраз, як жывы, родны і народны тэатр у Пружанах заступлены незразумелым.. Нязьлічаныя перашкоды перасыпаны на кожным кроку на шляху асьветнай, здавалася-б так карыснай працы... Усю гэтую „сучаснасьць“, ці „дачаснасьць“ („хроніку“) малююць зьмешчаныя ў часапісу факты, лічбы, абразкі.

Але чым ноч чарнейшая, тым ярчэйшыя зоркі. „Ад нядаўняга мінулага праз цяжкае сучаснае — да сьветлае будучыні“, кажа назоў апошняга артыкулу у нумары, як быццам кліч і лёзунг „Духу ТБШ“.

Дадатняй рысай часапісу, як і наагул усёй працы ТБШ, зьяўляецца тое, што яны не абмяжоўваюцца толькі воклікамі ды—лёзунгамі, як гэта рабілася і робіцца ў іншых часапісах Побач з уздымаючым народны дух магутным ідэйна-асьветным энтузыязмам, часапіс дае добра, грунтоўна і дакладна прадуманыя, выпрабаваныя векавымі досьледамі ўсіх ужо здабыўшых сабе волю і долю народаў **практычныя шляхі і спосабы працы**, прымаючы пад увагу канкрэтныя варункі пануючай цяпер цяжкай сучаснасьці. Таму усе дэклярацыі, Галоўнай Управы ТБШ і інш., зьмешчаныя ў часапісу, маюць характар рэчовых інструкцыяў, прадумана - адказных, практычных крокаў, пазбаўленых усякага утопізму ці дэмагогіі

Жывым і сьвежым духам—чыстым пахам жывой народнай душы вее з старонак гэтай акуратна і прыгожа выданай чарговай кніжачкі „Летапісу“.

Хай жа ў ім надалей і ў новым годзе — „Дух ТБШ“ перамагае усе перашкоды...

---

**„КАЛОСЬСЕ“** – Белар. Літэратурна—навуковы часапіс. Кн. 1(5)1936 г. Год 2-гі.

Гэты нумар адчыняецца прадмовай Рэдакцыйнай Калегіі, якая „скромна“, але „позытыўна“ ацэнівае... сама сябе і сваю працу за мінулы год, сцьвярджаючы, што - „стаіць на добрай дарозе, ідучы простым шляхам да сваей галоўнай мэты. „Мэтай-жа рэдакцыі ёсьць: гуртаваць беларускія літэратурныя сілы...“ і т. д. „Ідэовыя рамы“ „Калосься“ шырокія—кажа далей прадмова, – ёсьць у іх месца усім беларускім паэтам, пісьменьнікам, навукоўцам, крытыкам і інш. — бяз розьніцы іх праканаyньняў палітычных, соцыяльных і рэлігійных“...

Гэта ўсё добра. Але чаму-ж тады, не хапіла мейсца у шырокіх ідэовых рамах „Калосься“, той групе, якая выйшла са складу супрацоўнікаў, утварыўшы свой ўласны новы орган „Маладая Беларусь“...

Ёсьць такі звычай у літэратурным жыцьці: калі якая журнальная група разьбіваецца на дзьве, дык абедзьве неяк лічаць сваім абавязкам высьвятліць грамадзянству прычыны ідэйныя, ці якія іншыя гэтага разлому.

У нашым выпадку мы нічагусенькі не даведываемся аб гэтым ні ад старога „Калосься“, ні ад „Маладой Беларусі“. Відаць гэта іх хатнія справы, сямейныя сэкрэты. Дык і ня будзем заглядаць у іх хаты, а проста паглядзімо на тое, што даюць нам ободва часапісы.

Пачнем з старэйшага векам.

Пасьля прадмовы нумар пачынаецца цыклям вершаў. М. Машары.

Творчасьць Машары вымагае спэцыяльнага артыкулу. Але мы затрымаемся толькі на пару найбольш характэрных рысах творчасьці поэта. Машара паэт ужо настолькі прызнанага таленту, што не павінен баяцца крытыкі наагул. Пытаньне таму ужо не аб таленце, але аб яго характары і межах.

Поэт творыць, гэта значыць, як казаў калісьці Золя, „прапускае адчуванае жыцьцё праз прызму свайго тэмпэрамэнту, ці прасьцей—перарабляе яго у сваёй душы

Але у Машары „душа“ неяк вельмі неспакойная, а перадусім, залішне „галасьлівая“..

У цесным зьвязку з гэтым Машара больші апісывае абстрактнымі славамі сваю „сілу“ „змагара“. „званара“, „бунтара“ ці свае цярпеньні за увесь беларускі народ але неяк ня можа паказаць нам на **нашы ўласныя** вочы гэтую сваю „сілу“ і свае цярпеньні, каб мы самі ўбачылі іх, адчулі іх, як **мастацкую** істоту, **маючую сваe жыцьце, асобнае ад паэга** .

У гэтым як раз і зьмяшчаецца ад'емная, „суб'ектыўнасьць“ яго творчасьці.

Ня хочам казаць гэтым нешта непрыемнае Машары, якога вартасьці прызнаем цалком. Мы толькі сьцвярджаем тое, што ён дае. Больш таго — мы бачым, як з бегам часу побач з наступаючым усё больш агульным прызнаньнем яго, як паэты, — гэта трэба проста сказаць, крыху хваравлівая, яго суб'ектыўнасьць усьцяж зьмяншаецца..

На нашых вачох паэт як быццам „папраўляецца“ робіцца больш об'ектыўным, больш мастаком . Довадам—зьмешчаныя ў „Калосьсі яго вершы з цыклю Падарожжа“. Не пашкодзіла-б гэтай поэме, якая бачыць сьвет толькі ў адрыўках, больш мастацкай апрацоўкі, каб цалкомператварыць у поэзію тое, што ў ёй не падымаецца над роўнем вершаванага апісу падарожжы.

Паэт Бярозка даў залішне мала, каб можна было нешта сказаць аб яго поэтыцкім твары. Зьвертаем увагу Бярозцы толькі на яго верш:

„На ўсходзе ўжо разьліў **хтосьць медзь**“...

---

Аддзел белетрыстыкі не выходзіць па-за ровень літэратурна-прызваітага, хаця і не бяз пэўных выняткаў.

Да апошняга „пададдзелу“ трэба залічыць малую праграмную навэльку Яз. Бурака, можа і добра задуманую, але блізу цалком папсаваную нейкім недарэчна вучоным“ стылям. Паслухайце-ж самі:

„У парку .

„Яна „кажа“ яму“: ... буду жыць тваім жыцьцём і думаць тваімі „к а т э г о р ы я м і“...

А далей яшчэ:

(Далей на ст. 5 ай).

# „Падарожжа і бездарожжа“.

Выйшла першая частка „Падарожжа“ Міхася Машары“ („Калосьсе № 1 за 1936 г.). Хтось, ад рэдакцыі заначыў, што гэты твор, „насычаны высокім ідэовым зьместам, — зьмяшчае шмат важных і палючых прадметаў сацыяльнага і нацыянальнага... характару“... Вось да гэтых „высокіх“ мяйсцоў я думаю і прыступіць.

М. Машара, перадусім чаруе нас як мастак слова. Некаторыя яго абразы настолькі плястычна выступаюць са стараны вонкавай (пераважна там дзе Машара малюе абразы з прыроды), што часамі здаецца кожны кант, цень мог-бы адчуць, даткнуць пальцамі...

Альбо верш „Званар“, які робіць уражаньне, быццам бурай раскалыханы „магучы звон б'е безперастанку, кліча „на бой на перамогу“! У Машары, ледзь не ўсюды выступае гэта плястыка абразоў, але не заўсёды яна зьяўлаецца глыбокай; а найбольш —павярхоўнай, за скарынкай якой адчуваецца пустое мейсца.

У ранейшых яго творах мы бачым поле паросшае аўсамі, жытам, але ня бачым тых людзей, якія яго мазольна ўзгаралі, засеялі; мы разам з Машарай захопліваемся ўсхвалёванай панскай нівай, якую не раз засяваў за кавалак хлеба і сам пясьняр, але не бачым таго сяўца, які сеючы думае аб палепшаньні свайго быту. Праўда, часамі і ў творчасьці Машары выступаюць сяляне „з вясьняным настроям“ на тварах (?), але яны хутчэй падобны да катарыначных ляляк ці да клёўнаў.

Мне здаецца што гэта і ёсьць слабай старaной творчасьці Машары, гэта яго ябстрактнасьць, страх перад праўдзівым жыцьцём... Прыходзілася чуць ад некаторых крытыкаў, што Машара пяе не сяньняшнюю вёску, а тую якая яшчэ будзе. Ну, але і тут здаецца яшчэ „бабушка на двое варажыла“, каб Новая вёска розьнілася ад старой толькі вясёлым настроам—паводлуг рацэпту Машары.

І так, варочаемся да „Падарожжа“.

Плывуць абразы адзін за адным, накіданыя сьмелымі ўзмахамі мастака.. Некаторыя закідаюць, што канструкцыя „Падарожжа“ зьяўляецца прымітыўнай. Гэта увага слушная пастолькі, паскольки аўтар трымаецца цягніка, музы ці. за хвост пегаса... Тое, што ўносіць, сказаў-бы на мой пагляд, пэўнае ажыўленьне ў „Падарожжа“, дык гэта лірычныя мейсцы часамі парываючыя сваім пафасам, сваей дынамікай.

Другая-ж рэч там, дзе аўтар катэгорыямі біблійнымі (і то там: „вока за вока“...) пляце такую несуразнасьць:

„і не судзіў, як ты, нікога
прымаў усё і выбачаў“..

Па першае, пад гэта „выбачэньне“ Машары можна падставіць шмат такіх жыцьцёвых фактаў. якія-б, каб „выбачалі“, зрабілі-б і так не салодкае жыцьцё немагчымым; па другое да Патопу ад Садомы гэты шлях, нат паводлуг св. кніг, ня вельмі багаты ў „выбачэньні“.

Падыходзім да наступнай кветкі:

„Хоць будзе з іх і рэнэгатаў
і здраднік пэўна не адзін,
але ў сям'і жыве й гарбаты
і ў маткі нат ён любы сын“.

Тут і сьляпы разьбярэцца, што рэнэгат і здраднік гэта ня тое самае, што гарбаты у маткі. Мне здаецца. што і ў жыцьці, ды калі перабяром і літэратуру дык такое збачэньне, дзе-б маці любіла свайго сына, які прадаў свайго брата — выпадак вельмі рэдкі, і не адважна рызыкаваць на падбоныя экспэрымэнты тым больш іх апраўдаваць.

Другія рэчы, а гэта ужо з палітыкі: „чым больш крыўд, тым болей грэху, хутчэй вам суд і прыгавор“..., гэты лёзунг „чым горш, тым лепш“ ужо даўна збанкрутаваў, а тым больш такая стаўка „на самацёк“: „яны асуджаны ня намі і хутка хутка дагніюць“...

Чытаючы падобныя рэчы, маем уражэньне, што іх напісаць мог зусім зламаны чалавек, які ня ёсьць аўтар „Званара“ і „Маршу“, іх мог толькі напісаць анальфабэт у галіне палітычна-грамадзкай і адначасна такія абразы, якія мог даць толькі мастак.

МАКСІМ ТАНК.

Вільня, 26-III-1936 г.

## Нашым паэтам.

*(Вершы прысланы на „Вечар беларускай паэзіі і песьні").*

Гэй, паэты вёскі, поля!
Я Ваш сябра, Засім Коля,
З-пад Пружаны, з вёскі Шэні.
І ў мяне бы ў Вас у кішэні
часта грошаў брак на марку,
рэдка ў страве бачу скварку,—
бульбай ўсенька пакрываю,
„гумы" цяжкія цягаю.
Но не падаю на дусе:
для Працоўнай Беларусі
Цераблю я шлях дзярновы,
ў верш ўплятаю з сталі словы;
ад тэй радасьці змаганьня
пяяць буду да сканаьня.
Вас прашу, сябры вяскоўцы,
Цешце вёску шчырым слоўцам,—
словам моцным, бойкім словам,
каб вяскоьы брат гатовы
быў адпор даць паняверцы...
Ой, як цяжка мне на сэрцы,
што быць з Вамі ня прыдзецца!..
Но, сябры, няхай сьмяецца
з песьняў нашых ворагі люты:
нашы песьні з сталі скуты,
перашкоды ўсе здрузгочуць,—
яны волі, волі хочуць!..
Дык вітаю, дабра зычу,
на ўсе грудзі пяяць клічу!

*Засім Коля.*



М. Васілёк.

* * *

Сьвет трасецца навакола,
Крызыс косьці прабірае,
Нам жывецца невясёла,
Кожны гэта добра знае.

Але прыйдуць дні другія,
Прыйдуць з полымем гарачым,—
І стары падмінаваны
Затрасецца сьвет інач й.

*П. Граніт.*

## Зара на плоце.

Зара на плоце іскрамі затлела,
І вецер закулгаў у каласох,
а на страсе чубатай пачарнелай
расьцьвіў расою жоўта-сіні мох.

Стаю, гляджу на маю вёску,
прачнуліся іх шопатам сады;
зязюля на лістох рабой бярозкі
лічыць лічыла шэрыя гады.

— Ну, што-ж, цябе можа спытацца,
Ці сьпіць пад стрэхамі народ?
Калі ён думае падняцца
спаткаць із песьнямі ўсход?—

Зязюля змоўкла, не гаворa, —
і толькі з поля зазьвінеў
з глыбокіх стоптаных разораў
вясной разбуджаны напеў.

— Скажы, ці вернуцца з вастрогаў
мае браты, таварышы?
Ці прыдуць ўсе яны з дарогі?
Ну што-ж, зязюля, адкажы?...—

І звонка зноў закукавала,
прыпомніў тых, што не прыдуць,
і тых, што вернуцца не мала
і песьняй поля ўскалыхнуць.

Іду у вёску на прадвесьні,
На межах топчучы расу.
Ахапак ў торбе маей песьняў —
ў грудзёх іх цэлы сноп нясу.

*Максім Танк.*



Міхась Машара.

## З сялянскіх ніў.

*(Чытаў аўтар на вечары 15.III.36)*

З сялянскіх ніў прынёс я вам жывыя
[адгалосы
— Пах руні кучаравай...
Вясьняны подзьмух, дзе кудзеліць
[сонца косы,
Сямі птушынай гімн з абуджанай
[дубравы
Прынёс я вам сюды.
Ў залётах буйна-маладых
Шапоча ветрык штосьць бярозцы
[белатварай,
З зарніцай раньняю падняўшысь над
[папарам,
Зьвініць — пяе жаўрук
Пяе, як выйдзе зноў ратай
Гарачым потам тут барозны паліваць
Пяе, як новае жыцьцё
На вогнішчы старым пачне ён будаваць,
Пяе пра першы май!..

З сялянскіх ніў прынёс сюды жывыя
[адгалосы,
Іх зьліць хачу з машын сталёвых
[сьвістам!
Я сын мільёнаў шэрых, бедных, босых,
Ідзём уперад мы
З заданьнем урачыстым —
Здабыць правы жыцьця!
Прайдуць вякі...
Аб нашых днях гісторыя напіша —
Ня будзе нас — другія будуць людзі...
У песьнях вольных
Нас другі песьняр акордамі ўскалыша.
За наш агністы сьлед
У сэрцах, думках іх, мы вечна жыці
[будзем!.

З сялянскіх ніў прынёс я вам жывыя
адгалосы—
Вясковай раніцы пунсовы сьвет
[і гоман.
Ужо луг зазеляняў — чакае працы поле
Парваўшы лёд — жывым прыбоям б'е
[у бераг Нёман
І ціха гойдае густыя вербалозы.
А ў гэтай радасьці гняце штосьць сэрца
[болем:
Вясна ўжо там, вясна! — і голад..
[сьлёзы...

*Міхась Васілёк.*

Вільня 1936 г.

* * *

Туды, туды душа ўзьлятае
І хоча век блукацца там,
Дзе луг прасторы засьцілае,
Дзе вольны вецер ходзіць сам;

Дзе дуб каронаю шырокай
Заве ад сьпекі лета ў цень,
Дзе песьня жнейкі адзінокай
Пачне і зноў канчае дзень, —

Туды, туды душа ўзьлятае
І хоча век змагацца там
З бядой, што вочы засланяе
Спрадвеку скрыўджаным людзям.

*Н. Т.*

* * *

Зямлю абкружым шчасьця чарам,
Абнімем моцнаю рукой,
Усьцісьнем праўдаю і жарам
Душы гарачай маладой.

А на праменьнях ясных сонца
Усе сьціг вольнасьці ўзьнясуць.
І добра стане тут бяз конца.
Для тых, што сеюць і таруць.

*Р—а.*

## Мая песьня.

Эх, песьня, мая вольная,
Люблю цябе, як дзень.
Плывеш, як ветры польныя
З прыціснутых грудзей.

Ты хоць сягоньня складзена —
Заўсёды у душы.
Імкнеш праз перакладзіны
У зорыстую шыр.

У кузьні звоніш молатам,
Гартуеш сталь і люд...
І сыпле сонца золатам
На шэрую зямлю.

І дні жыцьця калючыя
Зразорылі мне твар, —
Ня толькі я — замучана
Працоўная братва.

Але іскрацца вочы іх
Ў змаганьні і агні:
Сяляне і рабочыя
Запаляць сонцадні.

Чаму-ж змаганьню палкаму,
Чаму ня скласьці гімн?
Над Вільняй, над Сувалкамі
Разьвесім мы сьцягі.

І з песьняю баёваю
Працоўныя рады
Ідуць і заваёўваюць
Заводы, гарады.

*Анатоль Іверс.*

в. Чамяры, 22.I.36 г.



Максім Танк.

* * *

Вёска, родныя палеткі,
Твой загнаны сын прышоў
З-за густой жалезнай сеткі
Дыхаць сьвежасьцю палёў.

Смутак пройдзе, лятуценьні
Сэрца к жыцьцю ўваскрасяць.
І мінулыя цярпеньні
Будзем ў радасьць замяняць.

*Г Прамень.*

## Прадсьпеў да паэмы „Нарач"

*(чытаў аўтар на вечары 15-III-1936 г.)*

Прыйдзём яшчэ, вёска, твае песьняры
ня з торбаю песьняў жабрачых;
бярозавым смыкам на струнах зары
з табой заіграем іначай!

І сядзем на прызьбу, на новы парог,
як з песьняй, вясёлым аблічам,
вярнуўшыся з дальных, этапных дарог,
хоць шмат каго з нас не далічым...

Ты зьвесіш чупрыну саломенных стрэх,
заслухаешся, што гавораць..
І выплывуць зоры на сіні начлег,
на мокрую пашу вазёраў.

Закінуць ў глыбокае цёмнае дно,
ў затокі свой невад у тоні...
А месяц адвострыць сталёвы нарог:
гараць неба чорныя гоні.

Між польных дарог і глухіх каляін
Ноч дымам апусьціцца чорным,
А кволае лісьця бяроз і асін
абвяжыцца хусткай узорнай.

А вецер прачнецца, і вугальля зор
пасыпяцца ціха на сёлы...
І ткаць будзе вецер між нівaў і гор
з шаўковага кужалю золак.

Прыйдзем яшчэ вёска твае песьняры,
як з сонцам, і з песьняй гарачай,
і сэрцам пявучым на струнах зары
з табой загаворым іначай...

*Максім Танк.*

* * *

Зьвіні песьня мая, песьня раньняя
Над страхой мужыка саламянаю,

Дзе мой бацька жыве — рукі чорныя
І ад працы дрыжаць і мазольныя.

Ўскалыхні ты бядой ды адвечнаю
І пацеш ты яго доляй лепшаю.

Дык зьвіні-ж ты мая, песьня звонкая,
І надзеі будзі над старонкаю.

*Н. Т.*

## З жыцьця студэнтаў.

### Забастоўка студэнтаў Варшаўскай Палітэхнікі.

Забастовачны рух рабочых перакідаецца і на студэнтаў. Незадоўга пасьля пратэстацыйнай забастоўкі варшаўскіх студэнтаў, адбыўшайся 24 студзеня гэтага году за абніжэньне збыт высокіх унівэрсытэцкіх аплат, у пачатку сакавіка, ізноў выбухла акупацыйная забастоўка студэнтаў Палітэхнікі. Прабег забастоўкі студэнцкі дадатак „Работніка"—„Валька Млодых" характэрызуе так.

„На агульным Сабраньні... нават „народова" моладзь горача вітае воляскамі прапанову лявіцы аб забастоўцы аж да перамогі.

Ня чуючы пад нагамі цьвердага грунту, эндэцкія правадыры змабілізавалі на панядзелак баёўкі з іншых школьных установ, а таксама с па-за студэнцкага абшару і спрытна — у апошняй хвіліне — абвесьцілі акупацыйную забастоўку аж да перамогі", каб зараз-жа яе зламаць. У запраўды, эндэцкі „кіраўнік" акцыі п. Сальскі выдаў „загад", каб жыды ў працягу 15-ці мінут аставілі Палітэхніку. Мэта была ясная: завясьці авантуры, як на Унівэрсытэце — і інтэрвэнцыя паліцыі і ачышчэньне Палітэхнікі.

...Дзякуючы халоднай крыві антыфашыстаў, гэта правакацыя была спаралiжавана. Жыды вышлі, прыпёртая да муру, эндэцыя мусіла прынамся для вока прадаўжаць забастоўку. Забастоўка абняла амаль усе вышэйшыя школы ў Варшаве. Моладзь змагалася з адданасьцю—Варшава сьпяцыла на помач—каля Палітэхнікі гуртаваліся тлумы, а ў прылягаючых вуліцах дэманстравалі студэнты, але о дзіва! — пад лёзунгамі рабоча-сялянскага ураду і барацьбы з фашызмам.

Але вось раптам... зваліўся гром: эндэцкія баёўкі апусьцілі Палітэхніку! Ледзь па 2-х днях акупацыі, пры узьнятым настроі бастуючых, падтрымліваных цэлай працоўнай Варшавай! ... *Падаўляючая большасьць выказалася ў галасаваньні за далейшай забастоўкай аж да перамогі* і ухіленьнем прапаноў Сэнату і Сальскага". Эндэцкія „боюўкажы" ня лічыліся з гэтым.

„Перад выдаленьнем бастуючых з палітэхнікі, эндэцкія „боювкі" сярод агульнага абурэньня сілай выкінулі членаў усіх не эндэцкіх арганізацый моладзі — перадусім сацыялістычных. .. Аднак „непрайшло нават паўгадзіны ад часу зламаньня акупацыі, а ўжо ў самым сэрцы буржуазных раёнаў Варшавы — Маршалкоўскай, Алеямі, Новым Сьветам—цягнуліся, кіраваныя лявіцовай моладзьзю студэнцкія паходы і сярод энтузыязму публічнасьці — дэманстравал супроцы эндэцыі".

З. Ш. П. АМЭРЫКІ. Усе большыя арганізацыі студэнтаў ствараюць у Злучаных Штатах супольны Камітэт Міру, каторы сарганізаваў дзьве магутныя маніфэстацыі, з якіх адна лічыла 185,000 людзей, а другая больш 500,000

ЧЭХАСЛАВАЧЫНА. 48 студэнцкіх арганізацый стварыла супольны „Студэнцкі Фронт Міру, Волі і Поступу". Фронт гэты энэргічна прыступіў да працы, у рэзультаце чаго на кожным факультэце паўсталі ўжо адпаведныя сэкцыі, выступаючыя супроць вайны.

ФРАНЦЫЯ. Ў трох французскіх унівэрсытэтах Linos, Tours, Pijon адбыліся ў днях 11 і 12 лютага вялізарныя дэманстрацыйныя забастоўкі супроць падвышкі платы за навуку.

ВЭНГРЫЯ. Абніжэньня платы дамагаюцца таксама вэнгерскія студэнты.

ГРЭЦЫЯ. У выніку некалькі днёвых студэнцкіх маніфэстацый, маючых на мэце абніжку унівэрсытэцкай платы за навуку, ў Афінах падаўся ў адстаўку рэктар, унівэрсытэт зачынены, а разам з ім студэнцкі клюб, а таксама студэнцкая кухня.

# Моладзь за асьвету і самаадукацыю.

Падача дэклярацыяў на школу ў роднай мове, пры амаль поўнай ліквідацыі беларускага школьніцтва і ўзрастаючай неграматнасьці асабліва на беларускай вёсцы — гэта абавязак кожнага беларуса.

Неграматнасьць і цемра заваёўвае штораз больш сабе мейсца сярод моладзі. Газэты розных кірункаў, адценяў і моваў ужо многа пісалі аб цемры на беларускай вёсцы, але, нажаль, мала што зроблена для яе ліквідацыі. Моладзь ня ўмее чытаць і пісаць, бо няма кніжак і бібліятэк ў беларускай вёсцы. З прычыны адсутнасьці беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў і вялікіх труднасьцяў у даставаньні дазволаў, — спэктаклі на вёсцы сталі музэйнай рэдкасьцю. Каб наладзіць музыкі-вечарынку — трэба ісьці на пастарунак за спэцыяльным дазволам ды не заўсёды атрымаеш. А моладзь хоча жыць культурным жыцьцём, хоча мець разумную разрыўку — павесяліцца. Дык ня дзіўна што ў умовах культурнай бяздзейнасьці на арэну выступаюць карты. Карты зараз на вёсцы найбольш распаўсюджаная „культура“. Цемра, няграматнасьць, адсутнасьць усякага культурнага руху — кладуць на беларускае маладое пакаленьне адбітак дэмаралізацыі, мэлёнхолійнай бяздзейнасьці, непаваротлівасьці і тупасьці.

Але хто ўнікне ў жыцьцё моладзі, той бачыць агромную цягу да навукі. Спытайце ў гэтых няграматных і малаграматных хлапцоў і дзяўчат беларускай вёскі: — Ці хочаце вучыцца? Адказ атрымаеце заўсёды адзін: — Хочам — А калі крыху іншы, то: — хочам ды яшчэ як! — Гэта будзе шчырая праўда.

Кожны, каму дарагі лёс маладога беларускага пакаленьня павінен палажыць вялізарныя высілкі на барацьбу з цемрай, за асьвету ня толькі сярод дзяцей, але і сярод дарослай моладзі. Праца лёгка ня пойдзе, будуць вялікія перашкоды.

Культурны чалавек з большым пасьпехам можа абараняць свае правы і змагацца за паляпшэньне свайго дабрабыту. Так што барацьба за асьвету — гэта барацьба за дабрабыт, за шчасьлівейшую будучыню. Нетры беларускага народу нямала крыюць у сабе гэніяў навукі і літэратуры. Але яны на дзікай глебе цемры, або зусім ня ўзыходзяць, або пры браку кніжнага слова, ўзыйшоўшы, марнуюцца, як зерне пасеянае на скале. Колькі ёсьць напрыклад, здольных, яшчэ ня прызнаных, маладых беларускіх паэтаў, каторыя пры спрыяючых варунках могуць быстратой Танка здабыць сабе папулярнасьць

Дык уся маладая інтэлігэнцыя, як культурнейшая часьць беларускага народу, павінна кінуць усе свае высілкі на асьветную працу сярод моладзі. Ня гледзячы на рэлігійныя, ці палітычныя розьніцы — усе як адзін на культурны фронт. Побач з дамаганьнем роднай школы мы, маладая інтэлігэнцыя і прадстаўнікі моладзі, павінны паставіць, як адну з самых галаўнейшых задач, культурна-асьветную працу сярод самых шырокіх слаёў беларускай вёскі і горада — наагул, і асабліва сярод дарастаючай і дарослай моладзі. Цемра — адзін з галаўнейшых нашых супольных ворагаў. На барацьбу з ёю пакіруем найбольшыя высілкі, аб'яднаем усе жывыя сілы!

Да рэчы трэба зазначыць, што рэдакцыя „Шляху Моладзі“ пачынае праводзіць думкі, годныя ўвагі, — заклікае да а б'я д н а н ь н я на барацьбу за асьвету. У 2-м нумары „Шляху Моладзі“ зьмешчаны артыкул Я. Н. пад загалоўкам: „На беларускім культурным фронце“, дзе даюцца ў аснове зусім правідловыя ўказаньні культурна-асьветнай працы на вёсцы, як закладаньне беларускіх культурна-асьветмых арганізацый, ладжаньне беларускіх прадстаўленьняў, лекцыяў і г. д. „Апрача таго трэба праводзіць — піша Я. Н. — культурную працу хатнім спосабам, г. зн. зьбіраць сваіх знаёных (рабіць гэта закон нам пазваляе) і весьці сярод іх акцыю с а м а а д у к а ц ы і (падкр. наша): вучыць іх беларускай граматы, чытаць лекцыі з галіны беларускай літэратуры, гісторыі, географіі, або адраджэнскага беларускага, а таксама закладаць прыватныя беларускія бібліятэкі“.

Такая думка хоць і правідловая і карысная для беларускай моладзі, але аднабокая. Бо бязграматнай і малаграматнай моладзі трэба вучыцца, каб ведаць ня толькі дзе ляжыць Пружана і Наваградак, як паўстала і што гэта за Крэўская, ці Люблінская вунія, што пісаў Багушэвіч, але таксама—знаць усе чатыры арытмэтычныя дзеяньні, што гэта за Афрыка, Абісыня, ў каторай гарматамі і газамі Мусоліні праводзіць „цывілізацыю“. Значыць, трэба вучыцца ня толькі беларускіх, але і іншых агульна-навуковых прадметаў (географіі, арытмэтыкі прыроды і г. д.

У гэтым-жа нумары зьмешчана пісьмо беларускіх дзяўчат з Горадзеншчыны, дзе зьвернена увага на дасягненьні у выбары вясковых прыгожых тканінаў і вышываньняў ды выказваецца імкненьне да далейшага разьвіцця такога народнага творства. На нашых землях наогул ткацкія вырабы дасягнулі вялікай дасканаласьці і па прыгожасьці сваей часта не ўступаюць фабрычным. Дзяўчаты прыдаюць вялікае значэньне беларускім народным тканінам і вышываньню ды зварочваюцца да рэдакцыі і студэн так, каб дапамаглі ім перанесьці вопыт гэтай творчасьці з другіх куткоў нашай краіны. „Шлях Моладзі“ прыхільна адзываецца і абяцае стварыць пры рэдакцыі жаночы аддзел, які-б зьбіраў і разсылаў узоры тканін і вышываньня на правінцыю ды наагул заняўся гэтай справай. Асабліва цяпер, у крызысовы час, калі зусім скараціліся магчымасьці закупкі фабрычнай мануфактуры, свае ўласныя вырабы маюць для селяніна вялікае значэньне, а для вясковых дзяўчат ня меньшае значэньне—іх дасканальнасьць і прыгожасьць. Кожны павет мае свае асаблівыя тканіны і вышываньня. Трэба ўсё лепшае і прыгажэйшае зрабіць здабыткам, усёй краіны. Для гэтага хай дзяўчаты ў кожнай вёсцы часьцей зьбіраюцда для ткацкай навукі і вышываньня. Слушна, што для кіраваньня гэтай навукай ў Вільні павінна быць выдзеляна хоць пару людзей. Не дамо заглохнуць голасу Гарадзенскіх дзяўчат!

Здабываючы навуку, мяйсцовая моладзь павінна лічыць перадусім на свае ўласныя сілы. Самым выпісываць кніжкі, газэты лекцыі з завочных курсаў пры ТБШ і хатнім спосабам вучыць, мацнейшы-слабейшага. Цяжка са сродкамі — хтосьці скажа, Так, крута, — аднак магчыма. Моладзь па рознаму, радзіць: часам адпусьціць кусок грамадзкай сенажаці, паставіць беларускі спэктакль замест ґарэлкі, бярэ падваротнае на вясельлі грашыма; якісьці гаспадар будуецца, цяжка прыходзіцца дык просіць суседзяў, каб перавязьлі дзерава, заместа выпіўкі хлопцы бяруць грашыма; часта проста складаюцца, хто колькі можа,—і грошы на кніжку неяк знаходзяцца.

У Вільні ёсьць каля 300 студэнтаў і гімназістаў з усіх куткаў нашага краю. Іх сьвятым абавязкам зьяўляецца — максымальна выкарыстаць канікулы для дапамогі моладзі ў арганізаваньні адукацыі і самаадукацыі. Хто ў сучасных умовах адказваецца ад культурна-асьветнай працы, той годны пагарды. Абдзіраловічам сярод маладой беларускай Інтэлігэнцыі не павінна быць мейсца. На вас, беларускія студэнты і гімназісты, вясковая моладзь кладзе надзеі, — апраўдайце іх!

Усё польскае грамадзянства, якое цэніць агульна-людзкія здабыткі культуры, павінна дапамагчы нам у правядзеньні пазашкольнай асьветы. Мы помнім супольную барацьбу Каліноўскага супроць царскага уціску, „за нашу і вашую волю“. Помнім геройскую сьмерць шматлікіх Каліноўскіх на шыбеніцах царской рэакцыі. Верым, што не забыліся аб гэтым усе шчырыя і сумленныя палякі. Не забыліся, якім цяжкім і ахвярным было змаганьне за польскую школу, кніжку, культуру. Спадзяёмся на іх дапамогу. Беларуская моладзь хоча хадзіць на вячэрнія курсы пры школах, але жадае пачуць там роднае слова! Яна такжа хоча ладзіць свае спэктаклі, вечарыны, каб весялей і па культурнаму праводзіць час, а не з картамі і гарэлкай, не ў санлівай бяздзейнасьці.

Хто зацікаўлены, каб культура ішла наперад, каб беларуская моладзь ня дзічэла, ня апускалася назад да сярэднявеча — той не адмовіць дапамагчы нам пры асягненьні такіх мэтаў, як асьвета ў роднай мове, шырокае змаганьне з цемрай і дэмаралізацыяй. Бяз гэтакай дапамогі гутаркі аб ідэях цывілізацыі, будуць пустымі славамі.

# Па што такое баламуцтва.

21 сакавіка давялося мне выслухаць рэферат мгр. Станіслава Станкевіча праз радыё — аб беларускай літэратуры.

Слухаў я і дзіваў даваўся: не хацелася верыць, каб беларус, які скончыў беларускую гімназію йшчэ ў часы яе поўнага расцьвету, а да таго-ж аўтар чысьленых артыкулаў і рэфэратаў з галіны літэратуры, мог нешта падобнае сказаць — на ўсю Польшчу, на ўвесь сьвет.

А гаварыў ён вось аб чым.

Першае — гэта тое, што Беларусь „ад вякоў была пад уплывам Польшчы і Расеі“. Але — ад якіх гэта вякоў? Бо-ж кожнаму ведама, што аж ад канца XVI веку Беларусь паміма Польшчы чэрпала культуру з Захаду Слаўны доктар Францішак Скарына доктарскую ступень атрымаў у Італіі— у месьце Падуі, і друкарства прывёз на Беларусь з Прагі, места чэскага. Дый ці-ж гэта адно? А колькі-ж розных загранічнікаў — архітэктараў, маляроў і іншых мастакоў прыяжджала ў Вільню, у Полацак, у іншыя месты нашыя і там ці то гмахі векавечныя будавалі, ці малюнкамі іх прыаздоблівалі! Што-ж да ўплываў Расеі, — дык жа ў часы расцьвету беларускае культуры ня было йшчэ Расеі, а было „Маскоўскае княжства“, у якім культура шмат ніжэй стаяла, чым на Беларусі, і ад нас ішлі друкары вучыць маскоўцаў друкаваньня кніжак, а не наадварот! Дык гэныя „вякі“ паводле пана Станкевіча надта ужо ня даўныя аказаліся!

Другое — пан Станкевіч намагаўся канешне даказаць, што беларуская літаратура ўвесь час — ад першых крокаў адраджэньня ажно да сягодня — была і ёсьць пад уплывам польскім. Праўда, што ў XIX сталецьці „шляхоцкія“ пісьменьнікі пісалі свае беларускія творы пад уплывам польскае літаратуры, але няпраўда, што толькі пад гэтым уплывам, як казаў няслушна пан Станкевіч. Ці-ж яму ня ведама, што і да Шпілеўскага былі поэты з расейскай культурай, — як, для прыкладу, аўтар „Тараса на Парнасе“, як аўтары розных „гутарак“ і проціпаўстанчых вершаў? Ці-ж ня ведае ён, што „Энеіда“ пабеларуску была напісана пад уплывам украінскае пераробкі гэтага лацінскага твору Котлярэўскім? А беларуская брашура украінца Драгоманава ці-ж таксама яму няведама? А пераклады з расейскіх аўтараў, як „Сыгнал“ Гаршына? Па што пан Станкевіч гэта стараўся ўкрыць, падчыркваючы выключны уплыў польшчыны?!...

Ну, ды гэта йшчэ поў бяды: праўда, што ў XIX веку польскія уплывы на беларускую літэратуру былі няйвялікшыя, хоць і не адзіныя. Але ўжо зусім дзіка было слухаць недарэчныя заявы аб такім-жа польскім уплыве на новую, народную беларускую літэратуру XX веку. Проста хацелася голасна запратэставаць проці такога баламуцтва, якое пан Станкевіч сіліўся нават „навукова“ абгрунтаваць. З Купалэй вышла яшчэ та-сяк, хоць рэфэрэнт укрыў вялікі уплыў на Купалу поэтаў расейскіх, як Валерій Брюсов і Бальмонт. Але нейкім дзікім нахабствам выглядала заява, што і Якуб Колас, каторы бадай што ніводнае польскае кніжкі да вайны не прачытаў, бо ня ведаў зусім польскае мовы і той „быў пад уплывам польскае поэзіі“! Ды прчытайце вы, пане магістру, ўласную біографію поэта, дык даведаецеся, на якіх расейскіх поэтах вырастаў наш „беларускі колас“. А што ў „Новай Зямлі“ ёсьць у Коласа „інвокацыя“ — „Мой родны кут, як ты мне мілы“, каторую пан Станкевіч лічыць насьлядаваньнем Адама Міцкевіча (уступ да „Пана Тадэуша“), дык такія-ж „інвокацыі“ знойдзем і у Байрона, і у Пушкіна і шмат у каго. Хіба-ж „вынаходку“ гэтакую зрабіла выключна польская поэзія? І па што такое баламуцтва?

З беларускіх поэтаў навейшых часоў — ад пачатку XX веку — толькі ў Купалы можна пабачыць водгукі польскае поэзіі, ды ў Лявіцкага — эпігона шляхоцкіх рамантыкаў, ды мо' ў Сваяка, на якога дзеяла „польскае каталіцтва“, як на ксяндза каталіцкага. А ў каго больш? На гэта Станкевіч не адказаў, бо і ня мог адказаць. Цікава: калі ён чытае перад беларускай аудыторыяй, ды і не патрабуе казаць нічога падобнага. Бо калі-б адважыўся на гэта, для прыкладу, на „Вечары беларускае поэзіі і песьні“, то напэўна спаткаў-бы буру пратэстаў і абурэньня, як з боку нашых поэтаў, так і ўсёй беларускай аудыторыі. Але перад польскім грамадзянствам чамусь ці трэба прадстаўляць бедарускую поэзію. як нейкі „падгалосак польскай поэзіі“, а не самастойнае магутнае выяўленьне творчае сілы беларускае душы.

*Школьны калега.*

## ПЕСЬНЯРУ.

*Прысьв. М. Танку*

Над краем бяздольным дзе крыўда [і гора
Спрадвеку з народам жывуць,
Магутнае песьні бурлівай, як мора,
Чароўныя хвалі плывуць.

Лірнік таёмны, дагэтуль нязнаны
Па струнах ударыў рукой.
І ўсіх, хто душой быў дагэтуль [заспаны,
Чаруе ён песьняй жывой.

То песьня — аб крыўдах, аб ўсім [перажытым,
То песьня — сучаснага горкі праклён,
То песьня — аб шчасьці так мала [спажытым
То песьня — аб радасьці будучых дзён.

Грае пясьняр... І здаецца трывога
Зьнікае паволі з грудзей:
Магутнае песьні цудоўныя тоны
Надзею льюць ў душу людзей,—

Надзею што згіне ўжо крыўда людзкая,
Што зьнікне пакуты пара,
Навекі пакіне нас доля цяжкая
І волі узыйдзе зара.

Грай-жа пясьняр!.. Няхай сьпеў [твой магутны,
Працоўны люд будзіць ад сну,
Каб зьмёў ён нарэшце сьлед гора [пакутны
І волі спаткаў ён вясну.

*С. Гаротны*

## Прадвесьня.

Яшчэ у нас панура вые бура,
яшчэ віхор плюе ў вочы сьнегам...
Але ўжо сонца цэлы край чаруе
сваім люстрана-залацістым бегам,
ужо букеты сонечных праменьняў
з д о б я ц ь душу і думку пакаленьня.

Яшчэ пяскі, парэзаны ў палоскі,
тнуць грудай ногі босых нашых матак,—
але ўжо песьня з кожнай нашай вёскі
Вясну вядзе пад стрэхі родных хатак,
бо ўжо букеты сонечных праменьняў
з д о б я ц ь душу і думку пакаленьня

*Франук Грышкевіч.*

**Часта зьвяртаюцца да нас паважаныя чытачы з просьбамі выдаваць газэту часьцей. Каб ня было затрыманьня ў далейшым рэгулярным выхадзе газэты, неабходна грашовае падтрыманьне з боку грамадзянства.**

**Каб кожны Беларус злажыў ахвяраў па некалькі грошаў на месяц, то ўжо магла-бы існаваць беларуская штодзенная прэса.**

**Грамадзяне! Каму дарагая будучыня свайго народу, хто разумее патрэбу сваей незалежнай прэсы, той няхай пашырае газэту, шукае новых падпішчыыаў, зьбірае ахвяры на прэсавы фонд нашага выдавецтва.**

# Журнальны агляд.

(Пачатак гл. на ст 2).

„Ціха шапталіся ліпы. У шуме іх рэфлексамі сьмелае імагінацыі высноўвалі міражы шчасьця, блыталі пралётныя ўражаньні рэальнасьці ланцугамі адзіночна аформленых пачуцьцяў".

Ня кажучы ўжо аб тым, што часапісу трэба было-б „распісаць конкурс" паміж сваімі падпішчыкамі на расшыфраваньне гэтай шарады, ці-ж „Рэдакцыйная Колегія" не заўважыла гэтых стылістычных „перлаў", або можа шчыра ўважае, што такі стыль „у згодзе з Красой беларускай мовы, якую пільнаваць і разьвіваць ставіць сабе мэтай часапіс?

9 бачын нумару займаюць творы пісьменьнікаў „з Усходняй Беларусі".

Думка гэтая добрая, толькі выбар твораў ня зусім удалы. З Максіма Лужаніна дадзены тры адрыўкі з твору „Галасы гарадоў".

Сам аўтар трафна адзначае свой твор, як „матар'ял на паэму", Сапраўды-ж гэтую залатую „кудзелю" трэба добра расчасаць, спрасьці ды саткаць, каб вышла добрая тканіна поэмы. Праўда, і тутака талент мастака аж б'е ў вочы сьмеласьцю вобразаў, слоўнай аркестроўкай іх, рэзкімі зьменамі напрамку і разьвіцьця, неспадзевана стромымі ўзьлётамі і зрывамі думак. Усё бяжыць стромгалоў, як горны ручай, страляючы на ўсе бакі залатымі і вясёлкавымі коскамі сонца...

Другі пісьменьнік Кузьма Чорны прадстаўляе прозу. З раману яго „Трэцяе пакаленьне" таксама дадзены адрывак, які зусім не дае аб мастаку ніякага паняцьця.

---

Аддзел артыкулаў адчыняецца Е. Бужанскім. Аўтар праводзіць слушную думку, каб нашых паэтаў скіраваць неяк на шлях белетрыстычнага творства. Бо-ж запатрабаваньні на беларускае апавяданьне вялікія, а на кніжным рынку іх няма. Беларускія матывы выкарыстоўваюць чужынцы, ясна-ж у сваім „крывым люстры" добра фалшуючы іх жыцьцёвую праўду.

У цікаўным артыкуле д-р Ст. Грынкевіч закранае запраўды „балючую праблему" — чаму так грунтоўна зьмяніліся адносіны польскага грамадзянства да беларускай праблемы, як толькі беларусы апынуліся ў дзяржаве Польскай... З сумам аўтар прыпамінае аб тым, што было тады шмат працаўнікоў на беларускай ніве, якія шчыра ўважалі сябе за беларусаў, а цяпер ад беларускага жыцьця адыйшлі „адрадзіўшыся" у адроджанай Польшчы ўжо, як палякі. Дарэмна толькі аўтар згары дае „розгжэшэньне" усім гэтым спрытным і сьлізкім палітыкам, абяцаючы прыняць іх усіх „па хрысьціянску", як „блудных сыноў", калі яны з часам вернуцца „на беларускую ніву"... Не дачакаецца гр. Грынкевіч гэтага часу дык і не яму прыпадзе чэсьць іх спатыкаць.

Чацьверты аддзел часапісу — Кнігапіс — дае наагул граматныя рэцэнзіі.

Канчае нумар даволі багатая і бестароньняя, хаця і няпоўная хроніка беларускага жыцьця. Кніжка аздоблена дзьвюма адбіткамі абразоў мастака П. Сяргіевіча, аб якік Ад Станкевіч даў артыкулік вельмі зычлівы.

Агульнае ўражаньне трэба сьцьвердзіць дадатняе.

---

„МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ" Кн. І. Вільня 1936 г.

Гэты часапіс як нованароджаны павінен зьвярнуць на сябе найбольшую ўвагу. У Вільні чакалі яго выхаду з вялікім зацікаўленьнем, ускладаючы на яго вялікія надзеі. Бо-ж заўсёды ад „маладых" спадзяюцца нейкай надзвычайнай сьмеласьці, навіны і г. д. Ня меньш надзеяў выклікаў і самы назоў часапісу. Назоў, „шыльд" абавязвае. А гэты назоў асабліва, бо-ж будзіць цэлы рад слаўных успамінаў, аналёгіяў..

„Маладая Італія з Мадзіні і Гарыбальдзі на чале распачала ў 30 гадох мінулага стагодзьдзя незалежніцкі рух, які ўжо праз якіх 40 гадоў завяршыўся вольнай і аб'еднанай бацькаўшчынай ..

„Маладая Нямеччына" на чале з Гэйнэ ў тым-жа часеператварыла чыста літэратурны „Штурм унд Дранг старшага пакаленьня нямецкіх рамантыкаў у новую магутную сілу, дадаўшы яму сьмелыя палітычныя і соцыяльныя імкненьні, распачаўшыя новым шпаркім рухам аб'еднаньне і вызваленьне Нямеччыны ад путаў сярэднявечча...

Маладая Францыя" з В. Гюго на чале, а крыху пазьней „Маладая Бельгія" з галоўным павадыром Вэрхарнам, — гэта-ж згуртаваньні яркіх, магутных талентаў, рэвалюцыянэраў у галіне ідэй і мастацкага слова, — найбольш яркія моманты жыцьця гэтых народаў .. Маладая Баўгарыя , „Маладая Расея", Маладая Чэхія і ўрэшце.. Маладая Беларусь".. Тварэц баўгарскага вызваленьня поэт Хрысто Ботев павіс на шыбеніцы, — гэта Маладая Баўгарыя, Чэрнышэўскі дастаў 30 гадоў катаргі — гэта Маладая Расея, Масарык — тварец чэскай незалежнасьці быў прысуджаны ў Вэне на кару сьмерці, уцёк ад пятлі — гэта Маладая Чэхія... А хто-ж гэта ў нас так сьмела піша новую гісторыю Беларусі? Вінцук Грышкевіч, ці хто іншы?...

Паслухаем, што кажуць аб сабе і сваім часапісу самыя яго тварцы.

Чытаем: „Выходзіць у сьвет першая кніжка „Маладой Беларусі літэратурна-грамадзка-навукувага часапісу, „**Часапісу Маладых**". (падкр. наша). Родзіцца ў народных масах, часта саматужна, моцнае імкненьне проціставіцца ўсім нягодам жыцьця ўласнымі сіламі ...

„Гэтае імкненьне... родзіць патрэбу тварэньня канкрэтных формаў выяўленьня народнае думкі, такіх формаў якраз у нас сяньня нестае, а тыя, што існуюць, з многіх прычынаў не адказваюць агульна-беларускім мэтам",..

Імкненьні наагул сымпатычныя, законныя, натуральныя. Але якія варожыя сілы стаяць тут на перашкодзе гэтым слушным і шляхотных „імкненьням народных масаў" стварыць новыя канкрэтныя формы думкі і працы?

Адказ рэдакцыі ясны, точны і просты, хаця крыху неспадзеваны...

На перашкодзе народным масам на гэтым іх шляху да вольнага выяўленьня новай сваей думкі і працы стаіць толькі і выключна нашае старэйшае грамадзянства"... Няўжо-ж так такі ўсё і нават бяз ніякіх выняткаў?

Дагэтуль у нас у народзе, як і ў грамадзянстве, усімі бяз розніцы веку лічылася. што беларскі народ мае неяк крыху больш ворагаў — і клясавых, і нацыянальных, і палітычных, і рэлігійных... Залічалі слушна да іх лічбы і шмат сваіх унутраных ворагаў, як цемру, забабоны, някультурнасьць, нацыянальную нясьведамасьць, пьянства, здраду і г. д. і г. д.

Але ня чулі мы дагэтуль, каб ворагам ды яшчэ найвялікшым і адзіным зьяўляўся вораг, адзінай кваліфікацыяй якога ёсьць толькі **старэйшы век**.

Такім чынам рэдакцыя цьверда усталяе, што галоўным „цэнзам", які дае голас і права вырашаць усякія пытаньні,—зьяўляецца якраз толькі іх запраўды-ж цудоўны **малады век**.

„Старэйшае грамадзянства„ наяўна выжыла з вума ад старасьці, яно злосна ненавідзіць „маладую беларускую інтэлігэнцыю", для якой толькі і астаецца паводле „Маладой Беларусі" адзін шлях—рэвалюцыя.. проці гэтага веку.

Рэвалюцыя, як бачым вельмі характэрная...

Але пойдзем далей за рэдакцыяй. „Мы адкідаем такжа рожныя пражытыя і неактуальныя ужо сяньня ідэі".. Праграмная стацьця паважанага часапісу **павінна была-б** тут-жа ясна і точна указаць, што яна ставіць на месьца гэтых можа і слушна адкіненых ідэй. Хіба-ж якуюсь іншую, новую, жывую і актуальную ідэю?

Не. На **месца** ідэі „часапіс маладых" ставіць як галоўную і адзіную „ідэолёгічна - ўзгадаваўчую" аснову сваей практычнай праграмы — „**цьвярозы пагляд на жыцьцё**".

Проста праціраеш вочы, чытаючы гэта... Вось дык вось... Запраўды, як быццам старыя і маладыя памяняліся сваімі ролямі у жыцьці... Дагэтуль заўсёды бывала так, што як раз маладыя горача і ахвярна захапляліся нейкай ідэяй, нейкай сталёва-цьвёрдай катэгорыяй духа, нейкім просталінейным напрамкам, а „цьвярозасьць" была ўдзелам старэйшага веку... Але вось у нашых „маладых. дык наадварот... Цьвярозы пагляд на жыцьцё, „разуменьне жыцьця", усё гэта, як **аснова дзейнасьці** ёсьць тое, што неяк меньш мілагучна называецца — **опортунізмам** ..

Чытаем далей:

„Будзем апірацца на ўласныя жыцьцёвыя сілы, адкідаючы ўсякія орыентацыі ... Добра, слушна.

„Мы адкідаем.. пражытыя... ідэі, а становімся тварам да жыцьця, каб „зьліцца з гэтым жыцьцём і ісьці з ім поплеч ..

А мо' плясьціся ў хвасьце, зьліўшыся" з ім у адно невыразнае цэлае, не асьветленае ніякай ідэяй?

Навокал чаго маюць у лоне часапісу „крысталізавацца думкі народныя", калі Рэдакцыя мае за душой толькі... практычны опортунізм цьвярозага пагляду на жыцьцё ?,.. Адкуль у яе кузьні той жар душы, калі ня будзе ні агня, ні сьвятла ідэі, а будзе панаваць „умераная і акуратная тэмпэратура" цьвярозасьці ды „жыцьцёвага рэалізму? .

Праўда астаецца адна галіна, — разьвіцьцё мастацкіх формаў і кірункаў (?), адказываючых вымаганьням сучаснае поэтыкі, галіна, дзе магчыма можна абыйсьціся і без ідэі...

І Рэдакцыя заяўляе ўрачыста, што **Маладая Беларусь будзе класьці на гэта асаблівы націск** .

Але-ж трэба прыпомніць, што якраз усе папярэднікі „Маладой Беларусі" сымвалісты, футурысты і інш. заўсёды на **месца „формы" ставілі ідею,** і ў гэтым была першая, галоўная нацыянальна-цэнная адзнака іх творчай моладасьці...

Дык на іхнюю традыцыю, на іхні назоў наш „часапіс маладых" траціць усялякае права..

— Не хацелі мы і не шукалі ніякай палемікі! Але справа залішне ўжо важная, каб яе проста замаўчаць. Ёсьць рэчы, якія трэба наставіць рубам „на ўсе народныя вочы".

Можна яшчэ дапусьціць, што Рэдакцыя няўдала ўлажыла свой першы маніфэст „цьвярозага опортунізму", таму лёгіка змушае паставіць альтэрнатыву: або аўтары „маніфэсту" слабыя ўзгадавальнікі грамадзянства, або слабыя пісьменьнікі, якія так блутана выражаюць свае думкі, якімі толькі баламуцяць чытача. Аснаўны грэх гэтага баламуцтва — пагарда да старэйшага векам, якая лёгка можа сасьлізнуць на пагарду да мацнейшага і старэйшага духам...

На такой плятформе можна зьехаць вельмі далёка, але не ў краіну Культуры, а як раз у бок адваротны...

Што прывязьлі нам гр. Рэдактары на сваёй плятформе пастараемся разгледзіць у наступным нумары. *В.-ч.*

# З усяго сьвету.

— Муссоліні, бяз супрацоўніцтва якога эўрапэйскія дзяржавы ня могуць абыйсьціся ў справе нямецка-францускага канфлікту, выкліканага заняцьцем праз Гітлера Прырэйнскай вобласьці, як падае „Дэйлі Геральд" наставіў наступныя варункі свайго супрацоўніцтва: 1) безадкладнае зьнясеньне карных санкцыяў, 2) адмена пастановы Лігі Народаў абвінавачываючай Італію ў нападзе на Абісінію, і 3) вядзеньне мірных перагавораў бяз удзелу Лігі Народаў.

— У Аўстрыі парлямэнт ухваліў увядзеньне агульнай абавязкавай вайсковай павіннасьці. Пастанова гэтая знаходзіцца ў супярэчнасьці з Сэн-Жармэнскім трактатам, паводле якога Аўстрыя мае права мець толькі невялікую прафэсіянальную армію не перавышаючую 30 тыс. чалавек.

— Міністр Фляндэн і каміс. Літвінаў абмяняліся граматамі ратыфікаванага францускa-савецкага дагавору. Гэтакім чынам дагавор вайшоў у сілу.

— У Японіі вайсковае міністэрства апрацавала плян паступовага пераходу пад кантроль ураду усіх прамысловых прадпрыемстваў, зьвязаных з абаронаю.

— У Цурыху памер на 72 годзе Отто Лянг, адзін з закладчыкаў швайцарскай сацыялістычнай партыі.

— Кітайскае чырвонае войска занялі гор. Ну-Тунг, досыць значны цэнтр правінцыі Пан Сі.

— Міністр комунікацыі Гішпаніі выдаў загад прыняцьця на старыя пасады усіх урадаўцаў пошт і тэлеграфу, якія былі звольнены за свае палітычныя перакананьня.

— У Парыжу памёр знаны палітычны дзеяч Грэцыі Вэнізэлос, які ў леташнім годзе быў завочна засуджаны за паўстаньне супроць фашыстоўскага ўраду Кондыліса на кару сьмерці.

# Папярак загонаў.

(Гл. „Н. В." № 5 (6)

3.

У хаце солтыса Сьпірыдона за шырокім новым сталом, сядзеў сэквэстратар і перакладаў паперы. У хаце ўжо была грамяда сялян, чалавек дзесяць. Прыходзілі новыя. Хутка бітком была набіта хата Сьпірыдона.

У адным кутку стаялі бабы, у другім — моладзь, бліжэй стала — старэйшыя мужчыны. Усе гаварылі ціха, каб не прашкодзіць пану сэквэстратару ў працы. Толькі часамі вырываліся мацней тыя славы, якім уторыў шум, густа перацлецяны адарванымі славамі, сказамі.

— Коняй ніхто ня хоча путаць...

— Народ псуецца...

— Ды я і слухаць ня буду, хто зьнюхаўся з гэтай сволаччу.

— А на страху нідам. Хай сам сутанай накрыіць...

— Сымон... Скрыпка!.. Цішэй там! — роў падняўшыся з лавы солтыс.

Але шум не змаўкаў, пачалі спрачацца за сенажаць, за межы...

— На Бярозаўцы будуць млын ставіць! — Чуўся мацней за ўсіх іржавы, хрыплы голас Рыгора. — У мяне і так васьмуха. Меў шнур і той затопяць.

Да стала праціскаўся Сымон Скрыпка, высака над галавой трымаючы павестку.

— Сколькі вінават? — спытаў солтыс.

— Я не пісьменны, напісалі...

Сэквэстратар ўзяў павестку, пачаў рыцца ў паперах.

— Пяць... дзевяць... трыццаць адзін...

— Я, пан маю зямлі... во з пугав'е — шнур... трох дзяцей... — неяк глуха загаварыў Сымон, гледзючы ў стол...

— Дрэва навазілі, слупы ставяць. Кажаць, што тыя шнуры, якія затопяцца, гэта не нашы. — Належаць да млына і ён мае права іх затапіць.

— Ды ты цішэй Рыгор, што гэта ты расхадзіўся — крыкнуў солтыс — прашкаджаеш начальству. Быў гэткі мудры Цімох, дастаў два артыкулы...

— Ды ты ўжо двума не настрашыш у мяне ўчора сьвіньня, што выйшла на вуліцу, і то тры артыкулы дастала — агрызнуўся Рыгор.

— У мяне, пан і каня німа... хоць ты сам з жонкай лезь у хамут — гаварыў памалу Сымон, быццам не словы, а адварочваў чорныя скібы свайго жыцьця

— Маеш чым заплаціць?

— Вось і ўчора. Карова была, сам гадаваў... Сэквэстратар нецярпліва пачаў пералістваць паперы.

— І Грышка скажа і Якім.. уся вёска, што ад каляд ня еў ужо хлеба.

Памалу пачалі гаснуць галасы ў хаце.

— За табой трыццаць адзін злот — перарваў сэквэстратар...

Чорнымі, як зямля, патрэсканымі ад працы рукамі дастаў Сымон з запазухі ўверчаныя ў аддзёрты рог зношанай хусткі грошы.

— Адзін... два.. тры...

З звонам пакаціліся па стале бліскучыя пяцізалатоўкі і быццам гэты звон прыпомніў Сымону тыя вясеньнія ночы, калі ён не дасыпаў, уставаў, ішоў даглядаць у хлеў карову, а вецер зьвінеў у лазе на балоце, цёплай шаршавай платкай зьдзіраў сьнег з загонаў, з дзіравых падгніўшых вясковых стрэх. Прыпомніў што ў хаце голад і, тыя грошы, якія засталіся ў руцэ Сымона, зрабіліся цяжкімі, як камень, як жыцьцё. Моцна іх сьціснуў Сымон у чорнай далоні

. . . . . . . . . . . . . . . .

Пад вечар гурбай выйшлі ўсе з Сьпірыдонавай хаты. Сонца адыходзіла гасьцінцам разам з хурманкамі, пакідаючы на пыльнай дарозе кудлатыя цені бяроз. Яны расьлі, зьліваліся цягнуліся аж да крайніх хат засьценку. Пасьля прыйшоў вечар, сьцёр іх мокрай імглой, толькі доўга не магло астыць нагрэтае вясеньнім сонцам неба, памалу бялела, — напаўзалі цені—быццам астывала расплаўленае жалеза.

(Працяг будзе)

*Максім Танк.*

Вільня, Сакавік 1936 г.

